**Вольга Сабалеўская**
(Гародня)

## Міхалоўскі клaндайк: прамысловае будаўніцтва ў калоніі Нязбудка-Міхалова на рубяжы XIX-XX стагоддзяў

Дынаміка жыцця асобных паселішчаў настолькі ж своеасаблівая як і іх аблічча. Адны, здаецца, як у сівой старажытнасці, так і ў зменлівыя часы кока-колы і інтэрнэта жывуць няспешным размераным жыццём, кансерватыўным і традыцыйным. Іншыя паспяваюць зведаць імклівыя перыяды росквіту, каб пазней паглыбіцца на дзесяцігоддзі ў сонную стому. Чаму сціплая вёска альбо мястэчка раптоўна ператвараецца ў цэнтр прыцягнення для ўсёй ваколіцы, набывае вядомасць за межамі канкрэтнага рэгіёна? Для другой паловы XIX ст. амаль заўсёды штуршок урбаністычнаму развіццю надавала вытворчасць. Прамысловае развіццё глыбока правінцыйнага Міхалова, а дакладней, калоніі Нязбудка-Міхалова, у другой палове XIX ст. было хуткім і паспяховым. Яно ператварыла звычайную вёсачку у буйное мястэчка, сапраўдны кландайк, дзе хутка зарабляліся, але нярэдка таксама хутка знікалі буйныя капіталы. Высвятленню асаблівасцей „міхалоўскага прамысловага цуду” і будзе прысвечаны гэты артыкул.

<u>З’яўленне „Міхалоўскага кландайка”</u>. Насамрэч у кожнага цуда ёсць свой аўтар. Памяць пра Севярына Міхалоўскага, таго, каму сённяшні горад на працягу больш чым паўстагоддзя быў абавязаны рэпутацыяй істотнага прамысловага цэнтра, захоўвае сама назва мясцовасці. Калі ў 1832 г. вёска перайшла ў яго ўласнасць, Севярын Міхалоўскі ператварыў яе ў прамысловую калонію. Такі крок быў абумоўлены не толькі добрым адчуваннем гаспадарчай кан’юнктуры, але і сціплымі прыроднымі ўмовамі мясцовасці. Нязбудка-Міхалова знаходзілася на глебе дрэннай якасці, сярод балотаў і пяскоў, якія цягнуліся берагам ракі Супрасль. Да таго ж па дабрабыце мясцовых земляробаў моцна ўдарылі ваенныя разбурэнні напалеонаўскіх часоў. Усё гэта стварала сумнеўныя ўмовы для інтэнсіўнага развіцця сельскай гаспадаркі. Міхалоўскай альтэрнатывай стала прамысловасць.

У новую калонію былі запрошаны перш за ўсё перасяленцы з Захаду, з Нямеччыны, Швейцарыі і Францыі, якія жылі на тэрыторыі Беластоцкага павета, землеўласнікі якога адрозніваліся рэлігійнай талерантнасцю і прагматызмам, з канца XVIII стагоддзя. За імі з’явіліся яўрэйскія сем’і з навакольных мястэчак і першапачаткова нешматлікія

польскія перасяленцы. І вось ужо ў 1860 г. побач з самым буйным прадпрыемствам, гаспадаром якога быў сам Севярын Міхалоўскі, сукно выраблялі тры фабрыкі нямецкіх каланістаў — сем'яў Браўэраў, Коніцаў і Морыцаў[1]. Самым паспяховым з іх аказалася апошняе прадпрыемства: лёс фабрыкі сям'і Морыцаў па дакументах гарадзенскага архіва можна прасачыць да 1915 г. Заснаваная ў 1854 г., адна з буйнейшых у Міхалове, на працягу пяцідзесяці гадоў яна паспела тройчы змяніць гаспадароў, але пры гэтым увесь час заставалася сямейным бізнесам. Першым гаспадаром быў Карл Морыц. У 1890-я гады кіраўніцтва фабрыкай перайшло да яго ўдавы Фларэнціны, а ў 1910-я гады справамі прадпрыемства займаліся ўжо браты Рыхард і Юліус Морыцы[2].

Фарміраванне прамысловасці. Ва ўмовах наяўнсці мясцовай сыравіны, таннай працоўнай сілы і попыту на тканіны вытворчасць, звязаная з *вырабам сукна і апрацоўкай воўны* займала ў Міхалове цэнтральнае месца на працягу ўсёй другой паловы XIX — пачатку XX ст. Дзякуючы актам гарадзенскага гістарычнага архіва можна прасачыць дынаміку развіцця гэтай галіны. У спісе фабрык і заводаў Гарадзенскай губерні 1879 г. пералічаны прадпрыемствы, якія адносяцца толькі да двух галін вытворчасці — *суконнай* і *піваварнай*. Пры гэтым у першай рубрыцы падаецца інфармацыя пра 42 фабрыкі, у другой жа бачым толькі завод па вырабе піва, гаспадаром якога быў тагачасны ўласнік Нязбудкі-Міхалова генерал фон Мінквіц[3]. На гэты час у Беластоцкім павеце налічвалася 77 прадпрыемстваў, дзе вырабляўся корт — сукно сярэдняй якасці, вопратку з якога насілі сяляне і небагатыя мяшчане.

Такім чынам, у канцы 70-х гг. XIX ст. калонія была адным з галоўных цэнтраў суконнай прамысловасці Беластоцкага павета. Канцэнтруючы 55% суконна-кортавых фабрык, Нязбудка-Міхалова стаяла побач з такімі прамысловымі цэнтрамі як Беласток, Заблудаў і Сураж. Пры гэтым трэба адзначыць істотную акалічнасць: буйнейшыя фабрыкі дадзенай галіны знаходзіліся зусім не ў Міхалове. Нягледзячы на тое, што на тэрыторыі калоніі мясцілася больш за палову суконна-кортавых фабрык павета, тутэйшыя прадпрыемствы давалі толькі 16% прыбытку гэтай галіны на Беласточчыне, што складае ў абсалютных лічбах адпаведна 365 585 і 2 278 209 рублёў на год.

Аб'ёмы вытворчасці і, адпаведна, прыбытковасць асобных міхалоўскіх фабрык моцна адрозніваліся. Сярэдні прыбытак суконна-кортавай

[1] Michałowo, [w:] Wikipedia. [Электронны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://pl.wikipedia.org. — Дата доступу 20.12.2011.
[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гародні (далей: НГАБ у Гародні), ф. 8, воп. 2, спр. 802, 1500.
[3] Там жа, ф. 14, воп. 1, спр. 378, арк. 3-3 адв., 7 адв.

фабрыкі Нязбудкі-Міхалова складаў у 1879 г. 8 704 рублёў, але з прадпрыемствамі Юліуса Knaўэра (48 000 руб.), Карла Морыца (24 375 руб.), Вільгельма Петэра (22 470 руб.), Аўгуста Лентлафа (22 000 руб.) і Карла Браўэра (20 000 руб.) суседнічалі дробныя фабрыкі Фердынанда Гунгара (1 500 руб.), Вільгельма Рыхтэра (2 250 руб.), Эрмета Краўзэ (2 750 руб.), Рэйнгольда Каліша і Іоселя Глінкфельда (па 3 000 руб.)[4]. Дыяграма 1 ілюструе гэтае становішча: з 42 фабрык калоніі 16 атрымлівалі гадавога прыбытку ад 1 500 да 5 000 руб.; 15 — ад 5 000 да 8 500 руб.; 4 — ад 8 500 да 12 000 руб.; 3 — ад 16 500 да 21 000 руб.; 3 — ад 21 000 да 25 500 руб. і толькі 1 ад 43 000 да 48 000 руб.[5] Такім чынам, у калоніі Нязбудка-Міхалова ў апошняй чвэрці XIX ст. пераважалі фабрыкі з сярэднім аб'ёмам вытворчасці.




***Дыяграма 1.***

*Размеркаванне суконна-кортавых фабрык Нязбудкі-Міхалова ў адпаведнасці з іх прыбытковасцю (1879 год)*

У межах вытворчасці тканін на тэрыторыі калоніі Нязбудка-Міхалова суіснавалі прадпрыемствы рознага профілю. Найбольш устойлівую дынаміку развіцця прадэманстравалі *суконна-трыковыя* фабрыкі. Дзве з іх на пачатку 90-х гг. XIX ст. з'яўляліся самымі старымі ў Міхалове (гады заснавання 1845 і 1848), адна пачала сваю працу ў 60-я, па чатыры ў 70-я і 80-я гг., тры — у 90-я гг. XIX ст. У 1867 г. была адчынена *суконна-ткацкая* фабрыка Густава Фіцке, а ў 1876 г. — *воўнапрадзільнае* прадпрыемства Вільгельма Фрыдрыха. У 90-я гг. распаўсюдзіліся *суконна-кортавыя* прадпрыемствы: 4 з 7 вядомых нам фабрык пачалі сваю працу менавіта ў гэты час. Згодна са „Звесткамі пра колькасць фабрык і заводаў у Гарадзенскай губерні", у 1892 г. у Міхалове налічвалася 23 прадпрыемствы суконнай прамысловасці (гл. Дыяграму 2): 14 з іх выраблялі трыко, 7 корт, 1 ткала сукно, 1 апрацоўвала воўну[6].

[4] Там жа, арк. 3-3 адв.
[5] Там жа.
[6] Там жа, спр. 401, арк.76-146 адв.

***Дыяграма 2**.*

*Дынаміка павелічэння колькасці суконных прадпрыемстваў Нязбудкі-Міхалова*[7]




У 80-я гады дынаміка развіцця прамысловасці ў Міхалове запаволілася. Большасць прадпрыемстваў, занатаваных пад 1879 г., са спісу 1892 г. альбо знікла, альбо змяніла гаспадароў, напрыклад, мукамольная фабрыка з паравым рухавіком, якая належала Фердынанду Берэнту, адышла да Абрама Фрыдмана, які пераабсталяваў яе пад прадпрыемства па вырабе штучнай воўны[8]. Колькасць фабрык зменшылася амаль удвая — з 42 да 23. Так адбіўся на становішчы міхалоўскіх фабрык эканамічны крызіс 1883-1884 гг. Цяжэй усіх пераносілі крызіс дробныя суконныя прадпрыемствы, абсталяваныя 3-10 ткацкімі станкамі. У суседнім Беластоку практычна ўсе яны аказаліся зачыненымі. На 31 ліпеня 1884 г. у пошуках працы ў павятовым цэнтры апынуліся 200 яўрэяў, 125 хрысціян, 50 іншаземцаў[9]. Можна сабе ўявіць, наколькі цяжкім было становішча ў маленькім Міхалове, дзе пераважалі дробныя і сярэднія прадпрыемствы і колькасць вакантных рабочых месцаў заўсёды была абмежавана.

У другой палове 80-х прамысловасць калоніі пачала ўзнаўляцца пасля крызісу. Прадстаўнікі некаторых старых нямецкіх сем'яў, першыя пасяленцы „Міхалоўскага кландайка" пашыралі сваю дзейнасць. У якасці прыкладу можна прывесці Густава Шэршміта, які, натхнёны прыкладам бацькі, Карла Шэршміта, што заснаваў вельмі паспяховае суконнае прадпрыемства, у 1887 г. пабудаваў у ваколіцах Міхалова цагельню. Праўда, пры гэтым ён увайшоў у канфрантацыю з мясцовай уладай і нават трапіў пад суд за самавольнае заснаванне прадпрыемства. Дарэчы, выпадак даволі тыповы. Заблытанасць заканадаўства Расійскай імперыі, валакіта і бюракратыя не раз ставаралі перашкоды для

[7] Маюцца на ўвазе прадпрыемствы, якія працягвалі існаваць у 1892 г.

[8] НГАБ у Гародні, ф. 8, воп. 2, спр. 1789, арк. 1.

[9] В. А. Сабалеўская, *Гаспадарчае жыццё „рухлівых беластоцкіх" і „апатычных гарадзенскіх" яўрэяў у сярэдзіне — другой палове XIX стагоддзя*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1999, t. 11, s. 49.

прамысловага развіцця Міхалова. Не разабраўшыся як след у правілах, якія да таго ж пастаянна змяняліся, каланісты рабілі памылкі ў зацвярджэнні сваіх прадпрыемстваў. Атрымаўшы дазвол на будаўніцтва, яны лічылі справу скончанай і пасля ўзвядзення будынка спакойна пачыналі працу, хаця закон патрабаваў склікання камісіі, якая павінна была праверыць якасць пабудовы і дазволіць вытворчасць. У выніку, як было з цагельняй Карла Шэршміта, праз 10 год мясцовыя ўлады знаходзілі фабрыку і прыцягвалі яе ўласніка да судовай адказнасці[10].

Каб дачакацца візіту камісіі, трэба было мець вялікае цярпенне. Беластоцкі павятовы спраўнік з абурэннем адзначаў, што даслаў выклік фабрычнаму інспектару, прысутнасць якога была абавязковай для вынясення рашэння па фабрыцы Вольфа Варана, яшчэ 9 верасня 1910 г., хаця быў ужо канец красавіка 1911 г.[11] Справа аб дазволе на мадэрнізацыю апрэтурнай фабрыкі Вільгельма Фрэймарка цягнулася з 1906 па 1911 г.![12]

Пад суд можна было трапіць таксама з-за невыканання рэкамендацый фабрычнай інспекцыі. Напрыклад, братам Рыхарду і Юліусу Морыцам давялося адказваць за тое, што іх маці, папярэдняя ўласніца суконнай фабрыкі, не ажыццявіла капітальны рамонт старой драўлянай сушыльні, а самі яны не парупіліся заліць падлогу новым цэментам. Дарэчы, здзіўляе памяркоўнасць пазіцыі крымінальнага суда: справа цягнулася гадамі, фабрыкантаў раз за разам папярэджвалі, давалі чарговыя адтэрміноўкі, страшылі штрафам у 10 рублёў альбо 3-дзённым арыштам, а ў выніку выносілася рашэнне, што „за давностию лет” пакаранне павінна быць скасавана[13]. Менш пашчасціла Вольфу Варану, які набыў абсталяваную насуперак патрабаванням пажарнай бяспекі суконную фабрыку Абрама Фрыдмана. Новы фабрыкант не паспеў прыбраць з праходу прадзільную машыну і трапіў пад суд. На гэты раз прысуд вынесены вельмі жорсткі: 43 рублі штрафу, што давялося замяніць на 2 дні арышту па прычыне адсутнасці ў Варана грошай (а гэта ўжо цікавы момант, які характарызуе і ўзровень прыбытковасці міхалоўскай індустрыі, і заможнасць асобных фабрыкантаў калоніі)[14]. Юліус Кнаўэр, які каля 10 год шукаў спосаб зрабіць фільтры сваёй фабрыкі дзейснымі на працягу цэлага года, а не толькі ў цёплы перыяд, у рэшце рэшт быў пакараны штрафам памерам у 15 руб.[15]

[10] НГАБ у Гародні, ф. 8, воп. 2, спр. 559.
[11] Там жа, спр. 1789, арк. 7.
[12] Там жа, спр. 1839.
[13] Там жа, спр. 802, арк. 21.
[14] Там жа, воп. 2, спр. 1789.
[15] Там жа, воп. 4, спр. 252, арк. 32 адв.

Хаця на пачатку 90-х гг XIX ст. міхалоўскія прадпрыемствы пачалі адраджацца, сярэдні прыбытак, які атрымлівалі гаспадары суконных прадпрыемстваў зменшыўся ў параўнанні з канцом 70-х гг. Калі ў 1879 г. ён вагаўся каля 8 700 рублёў, то ў 1892 дасягаў толькі 5 200 рублёў. Найбольшы прыбытак зафіксаваны на ваўнаткацкім прадпрыемстве Вільгельма Фрыдрыха (17 000 руб.), суконна-ткацкіх фабрыках Фердынанда Фрыца (17 620 руб.) і Юліуса Кнаўэра (16 000 руб.). Заўважым, што апошняя займала верхнюю прыступку ў 1879 годзе. У 90-я гады ў Міхалове працягвала назірацца дамінацыя фабрык сярэдняга памеру. На іх пераважалі механічныя станкі і ручная праца. На ўсе 23 прадпрыемствы калоніі ў 1892 г. прыходзілася толькі 4 паравыя рухавікі: тры з іх занатаваны на суконна-трыковых фабрыках Ф. Фрыца, Ю. Кнаўэра і спадчыннікаў К. Морыца, адзін — на суконна-кортавым прадпрыемстве А. Лентлафа[16].

У сярэдзіне 90-х гг. XIX ст. колькасць міхалоўскіх фабрык павялічылася да 33, а гаспадарцы ў цэлым па-ранейшаму была ўласціва монагаліновасць. Толькі паравы млын не меў дачынення да вытворчасці тканін. Па колькасці першае месца займалі суконныя фабрыкі (15), за імі ішлі трыкатажныя (9), воўнапрадзільныя (5) і апрэтурныя (2). Варта заўважыць, што калонія трымала манаполію на вытворчасць трыкатажу ў рэгіёне: толькі адно прадпрыемства гэтай галіны ў Беластоцкім павеце знаходзілася па-за межамі Міхалова[17].

У 1914 г. у калоніі Нязбудка-Міхалова прысутнічалі прадпрыемствы двух галін прамысловасці — *суконнай* і *мукамольнай* (гл. Дадатак). Першую з іх складалі 27 фабрык тэкстыльнай галіны — суконна-кортавыя, апрэтурныя, прадзільныя і ваўнаткацкія; другую — 2 млыны з нафтавым і паравым рухавікамі. Найбольшы прыбытак прыносілі суконна-кортавыя прадпрыемствы (у сярэднім 107 600 руб.), хаця калі параўнаць гэтую лічбу з агульнай па павеце (193 413 руб.), атрымаецца, што прыбытак міхалоўскіх кортавых фабрык быў вельмі сціплым[18]. Буйнейшым прадпрыемствам галіны была фабрыка братоў Юліуса і Рыхарда Морыцаў (420 000 рублёў на год), дзе працавалі 80 чалавек. Апрэтурная фабрыка Рудольфа Краўзэ і Фердынанда Рэстэля давала прыбытку 20 000 руб. на год; сярэдні прыбытак на 19 ваўнаткацкіх фабрыках Міхалова быў роўны 10 005 руб. (па павеце ў гэтай галіне 3 512 руб.); а на 2 воўнапрадзільных фабрыках гаспадароў Альфрэда Нэймана і Абрама Фрыдмана — 7 500 руб. (сярэдні па павеце 13 326 руб.).

[16] Там жа, ф. 14, воп. 1, спр. 401.

[17] *Вся Россия на 1896 г. Высшие места подчинённого управления с подведомственными им учреждениями*, Санкт-Петербург 1896, с. 251-253.

[18] НГАБ у Гародні, ф. 14, воп. 1, спр. 420, арк. 36.

На ваўнаткацкіх прадпрыемствах калоніі, дзе ўжываліся паравыя рухавікі, сітуацыя склададалася на карысць міхалоўцаў. Тут сярэдні гадавы прыбытак дасягаў 20 000 рублёў, у той час як канкурэнты па Беластоцкіму павеце задавальняліся 14 350 рублямі. Тое ж назіраем на мукамольных млынах. Уласнік паравога млына Абрам Фрыдман атрымліваў 8 000 руб. за год, у той час калі сярэдні прыбытак у павеце быў удвая ніжэйшы; млын з нафтавым рухавіком Карла Шэршміта наогул быў адзіным у Беластоцкім павеце. Відавочна, што ў большасці выпадкаў, асабліва калі мова ідзе пра вытворчасць, на якой не выкарыстоўваліся перадавыя тэхналогіі таго часу, прыбыткі міхалоўскіх фабрыкантаў саступалі сярэднім у галіне па павеце.

У 1910-я гг. працягваўся працэс пераходу прадпрыемстваў ад першапачатковага нямецкага насельніцтва калоніі да новых гаспадароў, якімі пераважна былі яўрэі. У 1914 г. Х. Л. Эфрон і М. А. Эпштейн арандавалі апрэтурную фабрыку Рэдлафа[19], суконна-кортавая фабрыка А. Лентлафа стала ўласнасцю Шмуэля-Тодрыса Гольдберга[20].

Міхалоўскія фабрыкі працавалі на авечай і штучнай воўне, трыко выраблялі таксама з другаснай сыравіны — ваўняных ануч. Як меншыя, так і большыя прадпрыемствы калоніі працавалі на ўнутраны рынак. Усе гаспадары прадавалі свае тавары ў павятовым цэнтры, у Беластоку. Гаспадарамі мясцовых фабрык былі пераважна асобы нямецкага паходжання, каланісты і купцы (як расійскія, так і прускія падданыя) і (зрэдку) яўрэі бліжэйшых мястэчак. Дарэчы, ніхто з іх не атрымаў спецыяльнай тэхнічнай адукацыі. Абсталяванне на ткацкіх фабрыках было даволі прымітыўным, таму прафесію набывалі эмпірычным шляхам. Самым адукаваным з занатаваных уласнікаў прадпрыемстваў з'яўляўся Вільгельм Фрыдрых, за плячыма якога была беластоцкая гімназія.

<u>Працоўны клас.</u> Колькасць рабочых міхалоўскіх фабрык канца 70-х гг. XIX ст. складала 340 чалавек. У 1892 г. яна знізілася да 273 чалавек[21], але нават пры гэтым працоўныя складалі вельмі заўважальную праслойку міхалоўскага грамадства. Як вядома, у 1890 г. насельніцтва калоніі дасягнула 3000 чалавек, з якіх больш за 1000 былі немцамі, 980 яўрэямі, 654 беларусамі, 375 палякамі[22]. Дадзеныя на 1914 г. дазваляюць вызначыць колькасць рабочых у калоніі ў 476 чалавек[23]. На жаль,

[19] Там жа, ф. 8, воп. 2, спр. 2114, арк. 1.
[20] Там жа, спр. 2222, арк. 1.
[21] Там жа, ф. 14, воп. 1, спр. 401.
[22] Gmina Michałowo: Miasta województwa podlaskiego, [Электронны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://www.photopodlasie.com. — Дата доступу 08.01.2012.
[23] НГАБ у Гародні, ф. 14, воп. 1, спр. 420, арк. 36-40.

нам не вядомы канфесійны і сацыяльны склад калоніі на гэты год, але ў 1905 г. агульная колькасць міхалоўцаў даходзіла да 3 239 чалавек, з якіх 1 216 былі яўрэямі, 797 лютаранамі, 720 каталікамі, 606 праваслаўнымі. Як адзначалася ў рапарце беластоцкага спраўніка, працоўны клас Міхалова складалі ў першую чаргу каталікі, праваслаўныя і лютаране, якія наймаліся на сярэднія прадпрыемствы і яўрэі, што працавалі на ручных станках. Менавіта апошнія пераважалі ў патоку мігрантаў з наваколля[24].

Па дакументах можна зрабіць выснову, што паміж хрысціянскім і яўрэйскім насельніцтвам існавала канфрантацыя. Яна праявілася, сярод іншага, у спробе лютаранскай часткі калоніі, інтарэсы якой прадстаўляў паверана ўласніцы калоніі баранэсы Евы фон Мінквіц, Готліб Францавіч Бош. У 1885 г., абапіраючыся на законы 1864, 1865 і 1882 гг., якія абмяжоўвалі права жыхарства для яўрэяў мястэчкамі і гарадамі, ён спрабаваў давесці, што Міхалова — гэта не пасяленне гарадскога тыпу, а калонія, а таму яўрэі павінны быць адсюль выдалены. Справа трапіла на вока паліцэйскім уладам. Для яўрэяў, якія сталі жыхарамі Міхалова пасля 1865 г., усё скончылася высяленнем[25].

Глеба для канфліктаў паміж хрысціянамі і яўрэямі відавочная: гэта эканамічная канкурэнцыя. Няўстойлівая гаспадарка Расійскай імперыі, дзе толькі пачала фарміравацца буйная прамысловасць, моцна адчувала на сабе дзеянне эканамічных крызісаў. Напрыканцы XIX — пачатку XX ст. Міхалова два разы было паралізавана іх наступствамі: у 1883-1884, 1903-1904 гг. У гэтыя перыяды ўласнікі прадпрыемстваў скарачалі колькасць гадзін працоўнага дня, зніжалі заробкі, звальнялі некаторую колькасць рабочых. Калі ўмовы жыцця пагаршаліся, унутрыгрупавая кансалідацыя ўзмацнялася, пытанне, хто „свой", хто „чужы" набывала вастрыню, а адказ на яго даваўся як з канфесійнага, так і з этнічнага пункту гледжання. І нямецкае, і польска-беларускае насельніцтва трапляла ў разрад „мясцовых" (першыя фактычна былі першым насельніцтвам фабрычнай калоніі і стваральнікамі яе прамысловасці, а другія — сяляне і былыя сяляне, якія перасяліліся ў Міхалова — з'яўляліся тым самым „карэнным насельніцтвам краю", якое спрадвек жыло ў сельскай мясцовасці). І для адных, і для другіх яўрэі былі „самымі чужымі з чужых", і выдаленне іх бачылася самым відавочным сродкам паляпшэння сітуацыі з беспрацоўем.

Праца на суконных прадпрыемствах адносілася да фізічна цяжкай, таму дзяцей у працоўнай статыстыцы мы наогул не ўбачым, жанчыны ж на пачатку 90-х гг. складалі не больш за 22% персаналу (60 чала-

[24] Там жа, ф. 1, воп. 18, спр. 1019, арк. 6-6 адв.
[25] Там жа, ф. 8, воп. 2, спр. 261, арк. 54.

век)[26]. У 10-я гг. XX ст. колькасць жанчын, якія былі задзейнічаны ў міхалоўскай прамысловасці, павялічылася да 141 чалавека (30%), што асабліва заўважальна па воўнапрадзільных, ваўнаткацкіх і кортавых прадпрыемствах[27].

Калі параўнаць сярэднюю колькасць рабочых, якая прыходзілася на адно прадпрыемства, атрымліваецца, што на пачатку 90-х гг. працоўныя рэсурсы ў найбольшай ступені канцэнтравалі фабрыкі суконна-кортавай галіны, на якія прыходзілася па 18 рабочых. Умовы працы былі суровымі, працягласць працоўнага дня вагалася ад 10 да 12 гадзін пры тыднёвым заробку ад 2 да 4 рублёў. У асноўным працоўныя сілы міхалоўскіх фабрык складалі сяляне з вёсак бліжэйшага наваколля і мясцовыя каланісты[28]. Пра гэта ўскосна сведчыць адсутнасць пры міхалоўскіх фабрыках якіх-небудзь інтэрнатаў альбо баракаў для працоўных, хаця ў буйных гарадах накшталт Беластока яны былі распаўсюджанай з'явай[29].

XIX ст., якое выклікае звыклую асацыяцыю са „стагоддзем пары і электрычнасці", стварыла вялікую армію наёмнай працоўнай сілы, якая ўсё гучней заяўляла пра свае правы на годную аплату, добрыя ўмовы працы і бяспеку. У другой палове XIX ст. прамысловыя прадпрыемствы Міхалова знаходзіліся пад пільным наглядам губернскага і павятовага кіраўніцтва. Ні адзін уласнік фабрыкі не мог правесці мадэрнізацыю абсталявання, будоўлю альбо рамонт вытворчых памяшканняў без адабрэння мясцовай паліцыі, інжынера і тэхніка. Перад пускам абсталявання абавязкова стваралася камісія, якая правярала адпаведнасць пабудоў плану, зацверджанаму праз будаўнічае аддзяленне губернскага праўлення ў Гародні і наяўнасць бяспечнага абсталявання.

Фабрычны двор не павінен быць загрувашчаны пабудовамі, паміж асобнымі будынкамі патрабавалася вытрымліваць вызначаную законам адлегласць[30]. Выбухованебяспечныя машыны (напрыклад, паравыя і дызельныя рухавікі) павінны былі змяшчацца ў асобным будынку альбо прыбудове, аддзяляліся глухой сцяной (брандмаўэрам), якая павінна была ўзвышацца над суседнімі будынкамі[31]. Механічныя машыны, праца якіх магла разбурыць будынак, дазвалялася ставіць толькі на 1 паверсе[32]. Паравы кацёл не мог стаяць блізка каля сцяны і акна. Памяш-

[26] Там жа, ф. 14, воп. 1, спр. 401.
[27] Там жа, спр. 420, арк. 36-40.
[28] Gmina Michałowo: Historia. Miasta województwa podlaskiego. [Электронны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://www.photopodlasie.com. — Дата доступу 08.01.2012.
[29] НГАБ у Гародні, ф. 14, воп. 1, спр. 401.
[30] Там жа, ф. 8, воп. 2, спр. 2126, арк. 5-5 аб.; спр. 2279, арк. 1.
[31] Там жа, ф. 8, воп. 2, спр. 2114, арк. 5.
[32] Там жа, ф. 8, воп. 5, спр. 242, арк. 12 адв.

канні павінны былі мець добрае асвятленне, вентыляцыю (натуральную альбо лепш механічную). Калі сярод абсталявання быў паравы кацёл, фабрычная інспекцыя патрабавала, каб на фабрыцы стваралася паравае ацяпленне[33]. Працоўным павінен быў гарантавацца свабодны праход па будынку, праз які можна хутка яго пакінуць; каб засцерагчыся ад пажару, патрабавалася, каб лесвіцы рабіліся не з дрэва, а з металу[34]. Маламаёмасным фабрыкантам, якія пераважалі ў Нязбудцы-Міхалове, было няпроста выканаць многія з гэтых патрабаванняў. Яны як маглі эканомілі, а таму механічныя вентылятары былі ў калоніі экзотыкай, а цэхі асвятляліся дапатопнымі пажаранебяспечнымі керасінавымі лямпамі. Электрычнасць ад паравых лакамабіляў стала распаўсюджанай крыніцай святла на міхалоўскіх прадпрыемствах толькі перад Першай сусветнай вайной[35].

Прамысловае будаўніцтва і экалогія Міхалова. Абаротны бок імклівага прамысловага развіцця Беласточчыны ў ранннеіндустрыяльны перыяд — гэта пагаршэнне экалагічнай сітуацыі. Канец XIX ст. прынёс разуменне актуальнасці праблемы забруджвання навакольнага асяроддзя, пачалося навуковае вывучэнне наступстваў тэхнічнага прагрэсу ў сусветным маштабе. Яшчэ далёка было да стварэння агульнарасійскага экалагічнага заканадаўства, у якія з'явіліся б строгія законы супраць забруджвання вады, паветра і глебы. За ўсім гэтым сачылі хутчэй мясцовыя ўлады, і эфектыўнасць аховы навакольнага асяроддзя залежыла ад руплівасці канкрэтных службовых асобаў і іх асабістай пазіцыі. Артыкул 68 Прамысловага статуту (1887 г.) і артыкул 408 Будаўнічага статуту забаранялі ўзводзіць у гарадах альбо вышэй іх па цячэнню рэк і прытокаў фабрыкі і заводы, „вредные чистоте воздуха и воды"[36]. На пачатку XX ст., карыстаючыся вопытам прамыслова развітых краін свету, экалагічныя патрабаванні да фабрык і заводаў пачало фармуляваць і расійскае кіраўніцтва (цыркуляр № 222 Упраўлення Галоўнага ўрачэбнага інспектара ад 5 сакавіка 1906 г., цыркуляр Міністэрства ўнутраных спраў ад 4 снежня 1911 г.).

У Нязбудцы-Міхалове экалагічныя праблемы былі не тэарэтычнай пагрозай, а надзённым клопатам. Суконная вытворчасць патрабавала наяўнасці вады, а тэхналагічны працэс уключаў у сябе афарбоўку тканіны хімічнымі фарбамі з пазнейшым прапалосканнем і высушван-

33 Там жа, воп. 2, спр. 802, арк. 6.

34 Там жа, спр. 802, арк. 9 адв.; спр. 355, арк. 6; спр. 1789.

35 Там жа, спр. 2221, арк. 1 адв.

36 Первые экологи России, [в:] Древо знаний: Проект компании Kocmi LTD. [Электронны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://kocmi.ru/jekologija/?id=174. — Дата доступу 08.01.2012.

нем. Мясцовыя фабрыканты будавалі свае прадпрыемствы ў непасрэднай блізкасці да ракі Супрасль, адной з галоўных водных артэрый Беластоцкага павета. Дзесяткі тон бруднай вады штодзённа траплялі ў яе. Справу пагаршала тое, што даліна ракі была нізкай, моцна забалочанай. Перш за ўсё гэта выклікала непакой сялян, якія ў 1899 г. звярнуліся да гарадзенскага губернатара са скаргай, што з-за развіцця прамысловага будаўніцтва ў Міхалове сапсаваліся вадапоі. Быдла, пакаштаваўшы супрасльскай вадзіцы, хварэла і здыхала[37].

Паліцэйскія ўлады былі занепакоены, але жорсткае патрабаванне збудаваць фільтры на суконных фабрыках Міхалова сутыкнуліся з прымітыўным прагматызмам і яўнай безадказнасцю ўласнікаў прадпрыемстваў да экалагічных праблем наваколля. Як адзначалася ў 1901 г., нягледзячы на распараджэнне беластоцкага павятовага ўрачэбнага ўпраўлення, з 7 суконных фабрык толькі на адной, уласнікам якой быў Рыхард Морыц, планавалася ўзвядзенне фільтраў. Але і ў гэтым выпадку з'явілася больш прычын для скрухі, чым для задавальнення. Праект водных фільтраў, які падаў для зацвярджэння Р. Морыц, быў ацэнены адмоўна: яны мелі эфектыўнасць толькі палову года. Як толькі вада ў фільтрах замярзала, шкодныя выкіды тут жа бурлівым патокам (3 000 вёдзер за дзень) ліліся ў раку Супрасль, што знаходзілася ў 27 сажнях ад прадпрыемства. Інжынер, якога наняў Морыц, спасылаўся на фільтры фабрыкі Коміхаў у Беластоку, збудаваныя такім жа самым чынам, зацверджаныя кіраўніцтвам, але павятовыя ўлады спасылаліся на малы аб'ём вытворчасці на прадпрыемстве Коміхаў і мізэрнасць ручаіны, куды траплялі выкіды.

Водныя фільтры больш-менш дапамагалі змагацца са шкоднымі выкідамі апрэтурных фабрык, дзе выкарыстоўваліся толькі арганічныя рэчывы. Цяжэй было з тымі суконнымі фабрыкамі, якія займаліся хімічнай афарбоўкай воўны: прадуктам іх дзейнасці былі ядавітыя неарганічныя спалучэнні, раствораныя ў вадзе[38].

З праблемай будаўніцтва эфектыўных водных фільтраў сутыкаліся ўсе ўласнікі суконных прадпрыемстваў Міхалова ў 1910-1914 гг., калі патрабаванні губернскага праўлення адносна аховы навакольнага асяроддзя сталі жорсткімі[39]. Як падаецца, на той час праблема была невырашальнай перш за ўсё з тэхнічнага боку: урачэбны аддзел ставіў перад тэхнікамі задачу спраектаваць эфектыўныя фільтры, якія дзейнічалі б напрацягу ўсяго года, а яны спасылаліся на тое, што гэта фізічна немагчыма — будзе мароз і вада непазбежна ператворыцца ў лёд. Пе-

[37] НГАБ у Гародні, ф. 8, воп. 2, спр. 1500, арк. 5.
[38] Там жа, воп. 4, спр. 252, арк. 5 адв.
[39] Там жа, воп. 2, спр. 2221, 2222, 2267; воп. 4, спр. 242, 252.

рапіска доўжылася гадамі, момант набыцця дазволу на працу фабрыкі адцягваўся, а ўрачэбны аддзел стаяў на сваім. У выніку пачалі будавацца водныя фільтры механічна-хімічнага тыпу. На першым этапе шляхам адстойвання і пропуску вады праз каменне выдаляліся цвёрдыя выкіды, а на другім адбывалася хімічнае ачышчэнне: вада праходзіла праз торф і вугаль і канцэнтравалася пры дапамозе аксіду кальцыю і сульфату медзі, пасля чаго збіралася ў адстойнікі. Цвёрдая маса пры гэтым магла выкарыстоўвацца ў якасці паліва[40].

Што тычыцца замярзання фільтраў, Юліусу Кнаўэру губернскія ўлады прапанавалі засыпаць іх гравіем альбо пяском, хаця мы дазволім сабе сумненне ў дзейснасці гэтай меры[41]. Але калі задача будаўніцтва водных фільтраў, што зменшылі забруджанасць ракі, здавалася больш-менш вырашанай, то пытанне пра цвёрдыя выкіды, якія заставаліся пасля адстойвання бруднай вады ў фільтрах, нават не было артыкулявана. Між тым іх аб’ёмы дасягалі тысяч тон: толькі з фабрыкі Морыца штодзённа на палі вывозілася каля 5 000 пудоў[42]. Фабрыка Кнаўэра за год вывозіла на палі каля 5 000 тон цвёрдых выкідаў[43].

Атмасферныя ападкі размывалі іх, выкіды траплялі ў падземныя воды, а затым працягвалі сваё падарожжа ў тую ж шматпакутную Супрасль і калодзежы, адкуль бралі ваду не толькі для хатняй жывёлы, але і для людзей. Цікава, што на пачатку ХХ ст. пабочныя прадукты суконнай вытворчасці разглядаліся ў якасці карысных мінеральных угнаенняў. Напрыклад, тэхнік М. Л. Калмановіч, які праектаваў фільтры для суконнай вытворчасці, даводзіў у 1914 г.: „Як вядома, вада, якая выпускаецца з ваўнамыйні, з’яўляецца добрым угнаеннем для лугоў”[44]. Да пачатку Першай сусветнай вайны не было спроб змагацца з такімі наступствамі дзейнасці фабрык, як пыл (асабліва шкодны пры выпрацоўцы штучнай воўны) і грукат[45].

<u>Падсумаванне</u>. У міжваенны час Міхалова паступова губляла значэнне прамысловага цэнтра рэгіёна. Монагаліновасць калоніі дрэнна адбілася на яе становішчы. Калі пачынаўся крызіс, попыт на тканіны зніжаўся альбо ўзнікалі больш паспяховыя канкурэнты, прадпрыемствы разбураліся, сотні людзей пачыналі пошук новай працы. Апошняй старонкай у гісторыі Міхалова як цэнтра прамысловасці стаў 1944 год, калі нямецкія акупанты пад час адступлення спалілі ўсё мясцовыя

[40] Там жа, воп. 2, спр. 2267, арк. 1 адв.
[41] Там жа, воп. 4, спр. 252, арк. 15.
[42] Там жа, воп. 2, спр. 2267, арк. 1 адв, арк. 10.
[43] Там жа, воп. 4, спр. 252, арк. 14 адв.
[44] Там жа, воп. 2, спр. 2221, арк. 1 адв.
[45] Там жа, воп. 3, спр. 61.

фабрыкі. Для нас сёння калонія Нязбудка-Міхалова — надзвычай цікавы прыклад урбаністычнага развіцця эпохі індустрыялізацыі. За палову стагоддзя яна паспела прайсці шлях ад шэраговай дробнай вёскі да істотнейшага прамысловага цэнтра рэгіёна. Гэта месца сустрэчы розных этнічных культур, дзе новы дом і сродкі на пражытак знайшлі для сябе немцы, яўрэі, палякі, беларусы і рускія, хаця іх суіснаванне не было ідэальна гарманічным. Гэта своеасаблівы беластоцкі Клондайк, лёс якога нагадвае Клондайк амерыканскі: імгненны росквіт, прыбыццё вялікай колькасці перасяленцаў, што шукалі тут казачна хуткага ўзбагачэння, а потым доўгі перыяд спаду. Сёння Міхалова вабіць не грукатам машын і прамысловымі вырабамі, а цішынёй, прыгажосцю ландшафтаў, маляўнічымі лясамі і чыстым паветрам, дзякуючы чаму ў гміне паспяхова развіваецца агратурызм, і гэта настолькі ж адпавядае сутнасці нашай эпохі, як і індустрыялізацыя ў другой палове XIX ст. Хіба што як сто год таму, так і зараз міхалоўцы добра ведаюць, на чым можна зарабіць грошы...

**Дадатак**

**Именная ведомость о фабриках и заводах в колонии Незбудка-Михалово с указанием числа рабочих и производительности по Гродненской губернии (1914)**[46]

**Суконно-кортовые фабрики**

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж. п. |
| Юлиус и Рихард братья Морицы | 420 000 | 50 | 30 | | |
| Леонтина Кнауэр | 38 000 | 22 | 25 | | |
| Вильгельм Фреймарк | 37 000 | 35 | 12 | | |
| Юлиус Отто и Гуго Петери | 27 000 | 30 | 6 | | |
| Мотель Эпштейн и Хаим Эфрон | 16 000 | 15 | 6 | | |

**Прядильные фабрики**

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж. п. |
| Альфред Нейман | 10 000 | 7 | 5 | | |
| Абрам Фридман | 5 000 | 6 | 4 | | |

[46] Там жа, ф. 14, воп. 1, спр. 420, арк. 36-40.

## Аппретурные фабрики

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж. п. |
| Рудольф Краузе и Фердинанд Рестель | 20 000 | 25 | 2 | | |

## Шерстоткацкие фабрики

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж. п. |
| Израиль Фридман | 4 000 | 6 | 3 | | |
| Шмуэль Юшинский | 10 000 | 9 | 4 | | |
| Лейзер Рабинович | 100 000 | 8 | 2 | | |
| Иосель Есионовский | 6 000 | 7 | 2 | | |
| Шлиома Шоухет | 7 000 | 7 | 1 | | |
| Юлиус Гофман | 4 000 | 4 | 1 | | |
| Зелльман Петер | 9 000 | 8 | 1 | | |
| Рихтер Глогер | 5 000 | 5 | 2 | | |
| Юдель Лазник | 3 500 | 5 | 1 | | |
| Мерка Левин | 3 000 | 4 | 1 | | |
| Меер Юшинский | 8 000 | 6 | 2 | | |
| Файвель Хаимович | 3 500 | 5 | 1 | | |
| Мотель Кругман | 4 000 | 4 | 2 | | |
| Иосель Гитлер | 6 500 | 6 | 2 | | |
| Шнеер Цитрон | 6 600 | 5 | 2 | | |
| Исаак Слуховский | 7 000 | 7 | 2 | | |
| Зелик Маранц | 2 000 | 3 | 1 | | |
| Израиль Бреслер | 7 000 | 7 | 1 | | |
| Шмуль Розен | 5 000 | 6 | 2 | | |

## Шерстоткацкие фабрики с паровыми механическими станками

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж.п. |
| Лейба Каплан | 20 000 | 17 | 3 | | |
| Лейба Цитрон | 18 000 | 8 | 5 | | |
| Менахим Гликфельд | 22 000 | 12 | 4 | | |

## Мукомольные мельницы паровые

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж. п. |
| Абрам Фридман | 8 000 | 1 | | | |

## Мельницы с нефтяным двигателем

| Владелец | Сумма производительности, руб. | Число рабочих | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | взрослых | | малолетних | |
| | | М. п. | Ж. п. | М. п. | Ж. п. |
| Карл Шершмидт | 300 | 1 | | | |

**Summary**

**Michałowo Klondike: industrial construction building in Niezabudka-Michałowo at the turn of the 19 and 20th centuries**

In the second half of the 19th century, a small village Niezabudka-Michałowo located in the Hrodna guberniya transformed quite quickly into a considerably large industrial centre. German and Jewish settlers contributed greatly to this fact. In 1879, there were 42 factories manufacturing cloth of a medium quality in Michałowo, which constituted over a half production of this good in the Bialystok Poviat. During the economic crisis in 1883-1884, a number of factories went down by half. Hired workers were looking for employment in a larger centre in Bialystok. Factory owners frequently changed, which ensued changes in the production profile. Some growth occurred in the middle of the 1890s, when 33 textile plants were working. In 1914, there were 2 mills in Michałowo, one with an internal combustion engine and the other one with a steam engine. About 3 thousand people inhabited Michałowo at the end of the 19th century. Most of the them were German, and there were only slightly fewer Jews. One third of the population were Belarusians (654) and Poles (375).

**Streszczenie**

**Michałowski klondike: budownictwo przemysłowe w kolonii Niezabudka-Michałowo na przełomie XIX-XX wieku**

W drugiej połowie XIX w. niewielka miejscowość Niezabudka-Michałowo w guberni grodzieńskiej dość szybko przeistoczyła się w spory ośrodek przemysłowy. Duża była w tym zasługa osadników niemieckich i żydowskich. W 1879 r. w Michałowie były 42 fabryki produkcji sukna średniego gatunku, co stanowiło ponad połowę wytwórczości tego towaru w powiecie białostockim. W czasie krachu gospodarczego w latach 1883-1884 liczba fabryk zmniejszyła się o połowę. Pracownicy najemni poszukiwali pracy w większym ośrodku Białymstoku. Właściciele fabryk często zmieniali się, a wraz z nimi profile produkcji. Ożywienie nastąpiło w połowie lat 90., pracowały wówczas 33 zakłady branży włókienniczej. W 1914 r. w Michałowie były 2 młyny, jeden z silnikiem spalinowym, drugi z parowym. W końcu XIX w. w Michałowie mieszkało około 3 tys. osób. Największą grupę stanowili Niemcy i tylko nieco mniejszą Żydzi. Jedną trzecią ludności stanowili razem Białorusini (654) i Polacy (375).

**Wolha Sabaleúskaja —** kandydat nauk**,** pracownik Państwowego Uniwersytetu im. Janki Kupały w Grodnie, specjalizuje się w historii regionalnej Grodzieńszczyzny.